№ 71 (4016)

11 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЫБАРЫ–2015

# Квартэт пачынае гульню



Учора Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў чатырох кандыдатаў у прэзідэнты – Сяргея Гайдукевіча, Таццяну Караткевіч, Аляксандра Лукашэнку і Мікалая Улаховіча. Пасведчанне пад нумарам адзін атрымала Таццяна Караткевіч – першая жанчына – кандыдат у прэзідэнты ў гісторыі Беларусі.

Дарэчы, Аляксандр Лукашэнка на ўручэнне пасведчанняў не прыйшоў. Яго прадстаўляў кіраўнік выбарчага штаба Міхаіл Орда.

Усе кандыдаты былі зарэгістраваны аднагалосна, прычым рашэнне, мяркуючы па ўсім, на самай справе было прынята яшчэ да пасяджэння. Па крайняй меры чатыры пасведчанні кандыдата ў прэзідэнты былі падрыхтаваны зараней, выпісаны яшчэ да галасавання.





Учора ж адбылося лёсаванне эфірнага часу для перадвыбарных выступленняў кандыдатаў.

Кандыдаты на пасаду прэзідэнта атрымаюць магчымасць выступіць два разы па радыё і два разы па тэлебачанні. Першыя выступленні адбудуцца 15 верасня ў 19 гадзін. Па радыё – у 6 гадзін раніцы.

Сяргей Гайдукевіч выступае па тэлебачанні 15 і 25 верасня, Таццяна Караткевіч – 17-га і 24-га, Мікалай Улаховіч – 23-га і 30-га. Аляксандр Лукашэнка (калі скарыстаецца гэтай магчымасцю, зразумела, бо ён і так з экранаў тэлебачання не сыходзіць) выступіць па БТ 18 і 22 верасня.

Выступленні абмежаваны 30 хвілінамі. Па жаданні самога кандыдата гэта можа быць выступленне ў запісе альбо прамы эфір.

**Працяг тэмы – на стар.2.**

НА СЛОВАХ І НА СПРАВЕ

*Перад прэзідэнцкімі выбарамі была завядзёнка праводзіць так званы Усебеларускі народны сход, на якім дзеючы прэзідэнт звычайна трымаў справаздачу аб выкананні і перавыкананні папярэдніх планаў і даваў абяцанні на новую пяцігодку. Гэтым разам пра Усебеларускі народны сход увогуле нічога не чутно: дата не прызначана, ніякія арганізацыйныя мерапрыемствы не вядуцца. Але гэта не азначае, што не трэба ўспамінаць передвыбарныя абяцанні 2010 года.*

### Было сказана…

*“Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры заробку да тысячы долараў у эквіваленце. Гэта самыя высокія ў нашай гісторыі тэмпы росту заробку і даходаў насельніцтва»*, – сказаў Лукашэнка на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе 6 снежня 2010 года.

### Што маем?

Паводле афіцыйных звестак, сярэдні заробак па краіне цяпер складае 7 млн 8 тысяч 600 рублёў, або 458 долараў, што нават менш, чым перад выбарамі 2010 года.

На 1 верасня гэтага года ў 432 арганізацыях дапушчана пратэрмінаваная запазычанасць у заробку перад 68 тысячамі работнікаў. Прадпрыемствы абавязаны выплаціць рабочым 331 мільярд рублёў.

### Было сказана…

*«Кожнаму будзе гарантавана працоўнае месца».*

### Што маем?

Афіцыйна беспрацоўе ў Беларусі хоць і павялічылася, але застаецца вельмі нізкім – крыху больш за 1%. Аднак гэта звязана перш за ўсё з тым, што яго лічаць па ліку тых, хто звярнуўся ў цэнтр занятасці па дапамогу па беспрацоўі, якая ў сярэднім складае ўсяго 175 тысяч рублёў. Пры гэтым, са слоў самога ж Лукашэнкі, у Беларусі нідзе не працуюць амаль 500 тысяч чалавек. Цяпер іх прымусяць яшчэ і плаціць за гэта так званы «падатак на дармаедства».

### Было сказана…

*«Усе паліклінікі і бальніцы ў краіне будуць поўнасцю ўкамплектаваны спецыялістамі, чэргі адыдуць у мінулае».*

### Што маем?

Ці сышлі чэргі ў мінулае і ці з'явілася ва ўсіх лячэбных установах новае сучаснае абсталяванне, кожны можа пераканацца сам.

### Было сказана…

*«Знізім падаткі. Радыкальна спросцім справаздачнасць і адміністрацыйныя працэдуры. Беларусь павінна быць у трыццатцы краін з найбольш спрыяльным бізнес-кліматам. У краіне будзе ўкаранёны прынцып: дазволена ўсё, што наўпрост не забаронена».*

### Што маем?

Падатковая нагрузка зніжана не была, у рэйтынгу краін з найбольш спрыяльным бізнес-кліматам Беларусь займае толькі 57-е месца. Аб прынцыпе “дазволена ўсё, што наўпрост не забаронена” беларусы могуць толькі марыць.

### Было сказана…

*«Умацаваць нацыянальную валюту. Будуць забяспечаны стабільнасць курса беларускага рубля, абсалютная захаванасць прыватных укладаў, даступнасць банкаўскага крэдыту».*

### Што маем?

У дзень выбараў 19 снежня 2010 года долар каштаваў 3005 рублёў, 9 верасня 2015 г. – 17.807 рублёў. Такім чынам, за няпоўныя 5 гадоў беларускі рубель абясцэніўся амаль у 6 разоў.

ТЫМ ЧАСАМ

## Запозненае прасвятленне

За дзень да пасяджэння Цэнтрвыбаркама адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду Віктар Цярэшчанка заявіў, што выходзіць з прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Адначасова ён заклікаў трох кандыдатаў, якія застаюцца патэнцыяльнымі сапернікамі Аляксандра Лукашэнкі, – Таццяну Караткевіч, Сяргея Гайдукевіча і Мікалая Улаховіча – «не пэцкаць сваё чэснае імя і зняць свае кандыдатуры з будучых фальшывых выбараў».

Зразумела, што здымацца ніхто не збіраецца. Як, напэўна, не зняўся б і сам Віктар Цярэшчанка, калі б ЦВК не агучыла скандальную інфармацыю пра тое, што сапраўдныя толькі 5–6 працэнтаў подпісаў, здадзеных за яго вылучэнне.

ЗДАРЭННЕ

## П'яныя маці салодка спалі…

У Мінску міліцыя пры сілавой падтрымцы спецыяльнага падраздзялення «Алмаз» затрымала 28-гадовага жыхара сталіцы, які здзяйсняў гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару ў адносінах да непаўналетніх.

Як інфармуе прэс-служба мінскай міліцыі, мужчына знаёміўся ў сацыяльных сетках з жанчынамі, якія жылі толькі з малымі дзецьмі. Праз некаторы час ён запрашаў жанчыну з дзіцёнкам да сябе ў госці. Далей ён чакаў, пакуль маці ад выпітага алкаголю засне, пасля чаго здзяйсняў гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару ў адносінах да дзіцяці.

У камп'ютары і ноўтбуку зламысніка праваахоўнікі знайшлі запісы парнаграфічнага характару з удзелам непаўналетніх. У адносінах да педафіла распачалі крымінальную справу. Яму пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

ДЫПКУР'ЕР

## Новы пасол – пан Януш Скаліmоўскі

Камісія па замежных справах польскага Сейма ўхваліла кандыдатуру Януша Скалімоўскага на пасаду амбасадара ў Беларусі.

Падчас галасавання камісіі Сейма за кандыдатуру Скалімоўскага як пасла ў Беларусі прагаласавалі 9 чалавек, супраць – 3. Пра гэта паведамляюць польскія СМІ.

Старшыня парламенцкай камісіі Роберт Тышкевіч патлумачыў журналістам:

– Працэдура ў справе Януша Скалімоўскага цягнецца ад красавіка гэтага года. І гэта, калі можна так сказаць, такая парламентарная руціна. Мы падтрымліваем кандыдатаў, якіх нам прадстаўляе МЗС і якія ўзгоднены з краінай, у якую будзе гэты кандыдат накіраваны. Хачу адзначыць яшчэ адну рэч. Адзіным аргументам, які становіцца вырашальным у прыняцці рашэння камісіі, ёсць досвед кандыдата, яго дасягненні і гісторыя службы. І ў выпадку Януша Скалімоўскага гэта праца для польскай дыпламатыі цягам 25 гадоў вольнай Польшчы для ўсіх магчымых урадаў.

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Упершыню з 2010 года



Еўрасаюз лічыць, што ўпершыню з 2010 года можна казаць пра пераход да больш канструктыўных адносін паміж ЕС і Беларуссю.

Пра гэта заявіла Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і бяспецы Федэрыка Магерыні, выступаючы ў сераду на сесіі Еўрапарламента ў Страсбургу.

*«Трэба скарыстацца гэтай магчымасцю прыступіць да больш пазітыўнага парадку дня з адным з ключавых партнёраў ЕС у гэтай частцы свету»,* – заявіла Магерыні. Яна ўдакладніла, што да такой заявы яе падштурхнула рашэнне Лукашэнкі памілаваць і вызваліць шэраг апазіцыйных актывістаў, уключаючы экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча.

*«Важна, каб усе палітычныя зняволеныя маглі карыстацца ўсімі грамадзянскімі і палітычнымі правамі, і ніякае пазбаўленне волі па палітычных матывах не павінна адбывацца»,* – заявіла Магерыні.

У той жа час яна прызнала, што цуду не здарылася: Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе ўжываецца смяротнае пакаранне, па-ранейшаму абмежаваны свабода слова, СМІ і арганізацый.

Як станоўчыя з'явы спадарыня Магерыні назвала ўдзел Беларусі ў праграме «Усходняе партнёрства», аднаўленне дыялогу аб правах чалавека і “пазітыўны падыход Беларусі ў кантэксце крызісу ва Украіне».

Яна таксама ацаніла і той факт, што Мінск пагадзіўся на назіранне місіі АБСЕ за прэзідэнцкімі выбарамі, якія пройдуць 11 кастрычніка. Чакаецца, што ў краіну прыедуць 400 міжнародных назіральнікаў, якім будзе дазволена працаваць без абмежаванняў.



УЧОРА



# Статкевіч пайшоў у народ без... народа

Учора вечарам Мікола Статкевіч у самым цэнтры Мінска, ля ГУМа, ладзіў пікет “За сумленныя свабодныя выбары”. Напярэдадні міліцыя папярэдзіла палітыка, што несанкцыянаваная акцыя – гэта парушэнне беларускага заканадаўства, а ён толькі-толькі выйшаў з турмы... Маўляў, назад захацелася?.. Статкевіч у адказ толькі пасмяяўся, адмовіўся падпісваць якія-небудзь паперы . І роўна ў 17.45 прыйшоў на пікет.

Следам з'явіліся Уладзімір Някляеў, Анатоль Лябедзька, паплечнікі Статкевіча, некалькі дзясяткаў яго прыхільнікаў, журналісты, простыя мінакі... А яшчэ – людзі з навушнікамі ў вуху. Праўда, паводзілі яны сябе спакойна. Па сутнасці, пікет ператварыўся ў своеасаблівую прэс-канферэнцыю Статкевіча. За тым, што адбывалася, назіраў спецдакладчык ПАСЕ па Беларусі Андрэа Рыгоні, назіральнікі АБСЕ, прадстаўнікі дыпкорпусу.

На момант здачы гэтага нумара ў друк усё праходзіла спакойна, але міліцыя склала на Статкевіча пратакол. Ніякіх плакатаў ніхто не трымаў, праўда, былі бел-чырвона-белыя сцягі. Не было толькі вакол Міколы Статкевіча народа. У гэтым уся праблема.

ПО ПОВОДУ



Мария ЭЙСМОНТ

# С жизнью – несовместимо

Итоги вступительной кампании этого года подведены уже давно, но вспомнила я о них недавно, когда позвонила родственница и рассказала о первой зарплате своей дочери – выпускницы Белорусского государственного медицинского университета, получившей распределение в районную больницу Минской области.

Каждый год конкурсы в БГМУ поражают воображение. Чтобы стать медиком, нужно сдавать сложнейшие предметы – биологию, химию, писать обязательный тест по русскому или белорусскому языку. Проходные баллы для поступления начинаются с 330 на лечфак, 350 – на фармацевтику, 370 (!) – на стоматологию. Конкурс есть даже на платные места. А обучение в медвузе – одно из самых дорогих в стране. Последние цифры этого года – 19,6–22,9 миллиона за год обучения в зависимости от факультета.

Одним словом, поступают туда лучшие. Наверняка знают о невысоких зарплатах в будущем, но расставаться с мечтой стать доктором не хотят, возможно, надеются, что, пока будут учиться, ситуация в медицине изменится.

А что имеют?

Молодой врач-интерн за целый месяц работы получила на руки – не поверите – 2,3 миллиона рублей. Вела прием, бегала по участку, в общем, работала почти так же, как и ее более опытный коллега, с той только разницей, что рабочий день был короче и все свои действия, назначения и т.д. и т.п. согласовывала с руководителем. Де-юре интернатура – это год послевузовской практики, но по факту вкалывают интерны почти так же, как врачи со стажем.

Как прожить за 2,3 миллиона молодому специалисту в чужом городе? Жильем больница не обеспечивает, а за съемную квартиру просят 200 (!) долларов.

Подрабатывать врачу-интерну не положено, брать ночные дежурства запрещено. Бросить все и, например, уехать и устроиться в больницу в родной город к родителям, чтобы сэкономить хотя бы на жилье и питании, – нельзя. Потому что это уже будет расценено как уклонение от обязательного распределения и любимое государство взыщет с молодого специалиста огромную сумму – десятки миллионов рублей за то, что учило и выдало диплом врача.

То есть ситуация – полнейший абсурд.

Кого-нибудь это беспокоит? Кто-нибудь говорит о проблеме с высоких трибун?

Например, министр здравоохранения Василий Жарко. Сколько лет руководит он Министерством здравоохранения? Если усидит в кресле после президентских выборов, то в следующем году уже будет десять. Скажите, за все эти годы мы хотя бы раз слышали из его уст обращения к Александру Лукашенко: мол, неправильно это – платить врачу-интерну 120 долларов; что не делает чести стране ситуация, когда нет перспектив у начинающего врача, потому что сегодня в Беларуси доктор со стажем, со всеми там категориями, дежурствами и прочими подработками не может заработать и 500 долларов. Терапевты и педиатры в поликлинике получают 4,5–5,5 миллиона, в стационере – 6–7. И это врачи «передовой», принимающие основной поток пациентов.

Разве эти деньги соответствуют усилиям, потраченным на то, чтобы данную специальность получить?

Можно, конечно, сравнить, сколько получают за свой труд врачи и интерны, например, на Западе или в США. Но можно провести параллель и с нашими реалиями.

Есть, например, и такая категория бюджетников – военные, сотрудники органов внутренних дел. Во время обучения в академиях они живут в казармах на всем готовом – государство их кормит, одевает, но при этом еще и выплачивает стипендию, которая в разы выше, чем у студентов гражданских вузов. Правда, у них это называется зарплатой, или денежным пособием, потому что считается, что, например, курсант Академии МВД – не студент, он сотрудник органов внутренних дел. К слову, чтобы поступить в Академию милиции, в этом году достаточно было набрать 185 баллов, на некоторые факультеты Военной академии принимали со 111 (!), 108 (!) баллами.

У будущего военного денежное пособие – 2 миллиона, если в зачетке курсанта отличные оценки, то и 2,8 миллиона, а стипендия студента-медика – 520 тысяч, повышенная – 630 тысяч. Зарплата врача-интерна, который ведет прием в поликлинике, – 2,3 миллиона. И этот дисбаланс сохраняется и во «взрослой» жизни. Милиционеру и военному положено служебное жилье, льготный кредит на строительство квартиры или дома под 5% годовых, пенсия в 45 лет и, наконец, пенсионное пособие практически в размере зарплаты. Есть такие социальные гарантии у врачей?

Почему бы министру здравоохранения не спросить у президента: справедливо ли это, что труд врача в нашей стране не оценен государством хотя бы так, как, например, милиционера?

Молчит министр.

Молчат депутаты-медики.

На последних парламентских выборах депутатом стал главврач минской поликлиники №34 Дмитрий Шевцов. Уж кто, как не он, знает проблемы медицины, как говорится, изнутри! Тем более что, будучи главврачом, Дмитрий Шевцов не боялся говорить о болезнях здравоохранения вслух. В интервью «Народной Воле», например, откровенно признавался, что «поликлинический хлеб тяжелый», а зарплаты у врачей копеечные, что молодые специалисты, отработав по распределению положенный срок, уходят: если не из медицины, так в частные центры. А как стал депутатом – уже другие интервью раздает. Поддерживает инициативу о платном посещении поликлиник, предлагает увеличить до 5 лет срок отработки по распределению для выпускников медвузов, которые учились по целевому набору.

То есть если что-то и надо менять в здравоохранении, то с пользой для государства, но не для рядовых врачей. И, выходит, не для нас, пациентов. Потому что следствие скудных зарплат в медицине – это нехватка кадров, очереди у врачебных кабинетов, жалобы пациентов на низкий уровень оказываемой медицинской помощи...

